1-99
123557 МОСКВА
Климашкина 4
ПОСОЛЬСТВО ПОЛЬША
НАР ГАЗ

Жыві, Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№ 190 (203) 28 верасня 1991 г. Субота.

ВЫДАЕЦЦА З КАСТРЫЧНІКА 1990 ГОДА НА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ.

Кошт: у розніцу — 10 кап. падпісны — 3 кап.

## Факты Аргументы Комментарии Суждения

### Гипнозом по вождению

ЧЕЛЯБИНСК. В городе появилась фирма, которая гарантирует приобретение навыков вождения автомобиля под воздействием гипноза. Срок обучения — полтора месяца. Неизвестно пока — имеет ли эта фирма разрешение медиков на подобный эксперимент.

### Мне бы пенсию Хонеккера!

МОСКВА. (Рейтер). 79-летний Эрих Хонеккер, тайно вывезенный в СССР в марте, пребывая в военном госпитале, получал пенсию, равнозначную 345 долларам ежемесячно.

### Посмотри и получи

**Просматривать телепередачи и критиковать их за деньги будут некоторые жители Ижевска.**

Местное телевидение объявило о наборе телезрителей в группу социологического опроса, которая будет регулярно сообщать свое мнение об увиденном по областному ТВ за определенное вознаграждение.

### Хоть не вылазь из корзины...

Как сообщил Госкомстат Республики Беларусь, в августе по сравнению с июлем индекс цен на товары и услуги, которые влючены в потребительскую корзину, составил 103 процента. А величина прожиточного минимума поднялась до 283 рублей.

### «Адретта»—для настоящих мужчин!



**Постарался, поработал прошлым летом на своем огороде минчанин Николай Степанович Нитиевский.**

А осень порадовала его интересным феноменом: как ценную находку, с осторожностью пришлось откапывать эту картошку. Рекордсменка сорта «Адретта» появилась на свет здоровой, без дупла и весом потянула на 1. 270 граммов.

Эх, чтобы таких рекордсменов да под каждым кустом штук по пять находить!

Фото Сергея ГРИЦА.

### В Гродно живут деликатные прокуроры

ГРОДНО. **В незаконной сделке по продаже товаров на сумму более 300 тысяч рублей оказались замешанными заместители председателя облисполкома Гируть и Кардаш.**

Как нам стало известно, они подписали межотраслевому производственно - коммерческому объединению «Неман» разрешение на продажу за пределами Беларуси крупной партии товаров. Здесь бы не было ничего незаконного, если бы эти изделия выпускал сам «Неман». Но он их закупил на предприятиях республики. Народный суд Октябрьского района города оштрафовал директора МПКО на 6 тысяч рублей. А вот заместители председателя облисполкома даже не соизволили прийти в суд.

Народный судья Октябрьского района Г. Сергей направила в адрес прокурора Гродненской области представление о привлечении М. Гирутя и Л. Кардаша к административной ответственности. Ответа пока не получено.

### На подходе — артиллерия

**Семеро старших офицеров — преподаватели артиллерийских дисциплин военной кафедры Белгосуниверситета — во главе с начальником цикла полковником Александром Гальпериным заявили о желании посвятить себя делу создания Белорусского войска.**

Костяком армии, как известно, является офицерский корпус. За прошедшие десятилетия на военной кафедре БГУ создана современная, а по ряду параметров и уникальная, учебно-материальная база, отработана методика подготовки офицеров. Разделяя идеи национально-государственного и демократического возрождения Беларуси, преподавательский коллектив учебного цикла стрельбы и управления огнем видит свой гражданский долг в том, чтобы отдать знания и опыт подготовке офицеров для будущей республиканской армии, говорится в принятом обращении.

Преподавателей поддержали 96 процентов студентов-артиллеристов. Они подписались под короткой, но емкой формулировкой: «Выражаем желание и готовность обучаться с целью пополнения офицерами резерва Белорусского войска».

Татьяна ПИМЕНОВА.

«Горячий» телефон 32-24-02 работает ежедневно с 9 до 11 часов.

# Ці была кампартыя партыяй?

## Заява выканкама Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады

Само жыццё паставіла гэтае пытанне і патрабуе яснага адказу на яго. І ў той жа час само жыццё ставіць кропкі над «і», вяршыць свой праведны суд.

Падзеі трох драматычных памятных дзён — 19 — 21 жніўня — з усёй яснасцю высветлілі, хто ёсць хто і што ёсць што, выразна акрэслілі тую бездань, у якую імкнуліся адкінуць краіну і нашу Беларусь рэакцыйныя сілы. Была зроблена спроба рэстаўрыраваць татальнае панаванне КПСС, КДБ і паслухмяных ім Савецкай Арміі, органаў МУС, пракуратуры і судоў. Нам рэальна пагражалі чорны цень новага ГУЛАГа, пачварная перспектыва безвыходнага, рабскага існавання.

Партыя, якая сама сябе, «ничтоже сумняшеся», называла «розумам, гонарам і сумленнем эпохі», самавыкрылася, паказала свой сапраўдны твар, сваю сапраўдную сутнасць. З вышыні сённяшняга дня выразна бачна, кім была ў рэальнасці так званая «кіруючая і накіроўваючая сіла савецкага грамадства». Яна ніколі не была добраахвотным грамадскім аб'яднаннем, а была «ордэнам мечаносцаў», з'яўлялася ініцыятарам і носьбітам ідэалагічнага і дзяржаўна-палітычнага таталітарызму, наддзяржаўнай, надкласавай і наднацыянальнай структурай, скіраванай на захоп улады і ўтрыманне яе любой цаной — цаной рэпрэсій, тэрору, генацыду, цаной злачынстваў супраць чалавека і чалавечнасці, супраць нацый і народнасцей, іх культур, традыцый, гістарычнай памяці, адукацыі, мовы. Пад прыкрыццём лозунгаў аб «будаўніцтве светлага будучага — камунізма», аб «інтэрнацыянальным адзінстве», аб «новай гістарычнай супольнасці — савецкім народзе» праводзілася палітыка уніфікацыі, русіфікацыі і, у канчатковым выніку, ліквідацыі этнасаў. Мы, беларусы, як ніхто другі, зведалі на сваім вопыце гэтую палітыку (яна яшчэ называлася «ленінскай нацыянальнай»), яе метады, маштабы і вынікі.

Ды зрэшты, што можна было чакаць ад «партыі», непадкантрольнай ні грамадству, ні законам, сам прыход якой да ўлады ў 1917 годзе быў не толькі незаконным, але і сцвердзіўся шляхам разгону дэмакратычна выбранага Установчага сходу Расійскай рэспублікі, шляхам расстрэлу найбольш свядомых палітычна піцерскіх рабочых — актыўных удзельнікаў трох рускіх рэвалюцый. Менавіта з гэтай крывавай акцыі ўзяла свой старт сённяшняя КПСС. Прыгадаем тут і адзін з самых ганебных дакументаў XX стагоддзя — сакрэтны загад Леніна аб правядзенні «рэвалюцыйнай меры» па знішчэнню праваслаўнага духавенства (у выніку рэпрэсіям падверглася каля 300 тысяч царкоўных служкаў). І яшчэ адзін падобны па сваёй канібальскай сутнасці дакумент. У тэлеграме ад 10 студзеня 1939 года партыйным арганізацыям прадпісвалася: «ЦК ВКП(б) растлумачвае, што прымяненне сродкаў фізічнага ўздзеяння ў практыцы НКУС дазволена рашэннем ЦК ВКП(б) 1937 года... ЦК ВКП(б) лічыць, што метад фізічнага ўздзеяння абавязкова прымяняць і ў далейшым... як зусім правільны і мэтазгодны».

Удумайцеся, дарагія суайчыннікі: за 74 няпоўныя гады «пабудовы» грамадства, якое ідэалагічныя вертапрахі гучна назвалі «грамадствам перамогшага сацыялізму і камуністычнай перспектывы» (!), наша краіна страціла 66 мільёнаў 700 тысяч людскіх жыццяў. Менавіта столькі абышлася палітыка і практыка гвалтоўнай калектывізацыі, валюнтарысцкай індустрыялізацыі, масавых палітычных рэпрэсій. Да гэтага трэба дадаць людскія страты грамадзянскай вайны, ахвяры палітыкі «ваеннага камунізму», расстрэлы бунтаваўшага сялянства і казацтва, баставаўшых галодных рабочых. Па звестках вядомага прафесара-эмігранта І. Курганава камуністычны эксперымент абышоўся народам СССР у... 110 мільёнаў 700 тысяч чалавечых жыццяў (уключаючы 44 мільёны загінуўшых і ненарадзіўшыхся ў выніку ўдзелу краіны ў другой сусветнай вайне, развязанай не без «міралюбівай» сталінскай палітыкі).

Так што размова можа ісці не толькі аб маральнай адказнасці. Паколькі ў адпаведнасці з сумна вядомым 6 артыкулам Канстытуцыі СССР кампартыя вызначалася як кіруючая і накіроўваючая сіла грамадства, як ядро яго палітычнай сістэмы, то яна, КПСС, нясе і юрыдычную адказнасць за ўсе здзейсненыя пад яе кіраўніцтвам злачынствы.

Філіялам, неаддзельнай састаўной часткай, баявым атрадам КПСС заўсёды была Кампартыя Беларусі. З 1917 года яна ішла ў нагу з РКП: разагнала снежаньскі (1917 г.) Усебеларускі кангрэс, не прызнала БНР, пакорліва прыняла аперэтачную БССР 1919 г., праіснаваўшую два тыдні і потым адкінутую прэч у імя інтарэсаў новаяўленай бальшавіцкай імперыі. Гэта яна, КПБ(б), па-халуйску маўчала, калі Рыжскі імперскі дагавор 1921 г. пакідаў ад Беларусі варты жалю лапік з 6 паветаў. Гэта яна, КПБ(б), рыхтавала і праводзіла сталінскія «сенакосы» — рэпрэсіі супраць уласнага народа і яго яшчэ нешматлікай інтэлігенцыі ў 20—30 гады. Гэта яна, КПБ(б), рассялянівала беларускага селяніна, ламала яму хрыбет. Гэта яна, КПБ(б) рыхтавала свайму народу незлічоныя Курапаты. Гэта яе агенты разбуралі заходне - беларускі вызваленчы рух, фізічна знішчалі КПЗБ і КСМЗБ, Работніцка-сялянскую Грамаду, аддавалі ў кіпцюры НКУС лепшых прадстаўнікоў заходнебеларускай культуры і палітыкі.

Даваенная бальшавіцкая машына рэпрэсій пазбавіла жыцця амаль 2 мільёнаў жыхароў Беларусі (дададзім сюды тых, каго «спісалі на вайну»). На рахунку КПБ — паўразбураная, паўзнішчаная беларуская нацыянальная культура — школа, тэатр, друк. Зніклі не толькі беларускія асяродкі культуры, але і яўрэйскія, польскія, латышскія, іншых нацыянальных меншасцяў рэспублікі. Планамерна знішчалася архітэктура, найперш цэрквы, касцёлы, мячэці, сінагогі.

Па волі КПБ Беларусь была аддадзена пад палігон, дзе «абкатваліся» ідэі «стварэння новага савецкага чалавека». У сваім рабалепным, халуйскім служэнні Маскве, у вернападданіцкіх пачуццях перад «каштоўнымі ўказаннямі» з ЦК КПСС КПБ старанна і паслядоўна выконвала сваю галоўную задачу — першым прывесці беларускі народ да камунізму. Народны паэт Беларусі Пімен Панчанка пісаў: «Нашы сябры з суседніх рэспублік, помню, жартавалі: «Прымаецца пастанова аб дрэнным выкладанні рускай мовы ў адной з сярэднеазіяцкіх рэспублік. Там амаль нічога не зменіцца, затое беларусы выканаюць пастанову на 200 працэнтаў». Альбо: «Загадай беларусам асушыць адну лужыну і адно балотца — яны асушаць усе балоты і азёры. У дадатак выпрастаюць усе малыя рэкі». Сумныя і горкія жарты. Сорамна за мясцовыя ўлады.

Дададзім: перш за ўсё — за іх «авангард», за іх «ядро», за КПБ.

Менавіта дзякуючы КПБ, наша рэспубліка здабыла ў апошнія гады славу «аплоту сталінізму», «Вандэі перабудовы», «запаведніку нінаандрэеўшчыны». Пад эгідай і пры актыўнай палітычнай і матэрыяльна - фінансавай падтрымцы КПБ, у прыватнасці яе ідэалагічнага аддзела, такія, з дазволу сказаць, друкаваныя выданні, як «Палітычны субяседнік», «Мы и время», «Славянские ведомости» распаўсюджвалі атруту бальшавізму і чарнасоценшчыны, ліпкі бруд антысемітызму, сеялі канфрантацыю з дэмакратычнымі сіламі рэспублікі, цкавалі БНФ, парламенцкую апазіцыю, лепшых прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі рэспублікі.

КПБ мела самае непасрэднае дачыненне да вынікаў чарнобыльскай катастрофы ў адносінах да беларускага народа.

Паслужлівая і недвусэнсоўная падтрымка з боку бюро ЦК КПБ гэкачэпістаў — не выпадковы акт, не вынік часовай разгубленасці. Сказанае вышэй і той факт, што першы сакратар ЦК КПБ А. Малафееў выступаў, як вядома, адным з ініцыятараў «навядзення парадку і дысцыпліны» шляхам увядзення ў краіне ваеннага становішча, — гаворыць якраз аб адваротным, аб антыдэмакратычным, антынародным курсе КПБ, у прыватнасці яе ЦК і яго сакратарыята.

Путч праваліўся, карта гэкачэпістаў і іх памагатых з кіраўніцтва КПБ бітая, дзейнасць Кампартыі рэспублікі рашэннем Вярхоўнага Савета прыпынена. Але малафеевы і чыкіны, замест таго, каб самакрытычна прызнацца ў зробленым, прызнаць сваю віну і прыняць адэкватнае рэальнай сітуацыі рашэнне, спрытна мімікрыруюць, імкнуцца рабіць добрую міну пры дрэннай гульні, абвінавачваюць у «прадузятасці», «кан'юктуршчыне», «непрыстойнасці», «несумленнасці» і іншых грахах сваіх крытыкаў (прачытайце інтэрв'ю А. Малафеева, якое ён даў на днях карэспандэнту газеты «Вячэрні Мінск» і якое надрукавана пад шматзначным дэмагагічным загалоўкам «Сегодня ответчик — партия, а завтра — целый народ?»). Лідэр КПБ безапеляцыйна заяўляе, што «ни с какого курса компартия республики не сворачивала», што яна толькі і думае пра тое, як лепш выказаць і абараніць інтарэсы рабочага класа, як «реформировать общество» (як КПБ яго рэфарміравала—народ добра ведае і помніць, пра гэта гаварылася вышэй).

І яшчэ шаноўны А. Малафееў у сваім крывадушным інтэрв'ю страшэнна дбае як быццам бы за лёс 670 тысяч камуністаў (даецца менавіта такая ўнушальная лічба). «У определенных кругов, — гаворыць ён, — появилось желание обвинить руководство. Так разбирайтесь с руководством, если оно виновато, но при чем здесь компартия, 670 тысяч коммунистов? **Поэтому приостановка деятельности компартии — акция совершенно незаконная»** (!?).

Па-першае, яўна перабольшваецца, не адпавядае сапраўднасці названая лічба — 670 тысяч. Як вядома, за апошні час, асабліва пасля жнівеньскіх падзей, выходзілі з партыі цэлыя працоўныя калектывы — цэхаў, прадпрыемстваў, арганізацый, творчых саюзаў, рэдакцый і г. д. Адны ў індывідуальным парадку паздавалі білеты, другія проста перасталі плаціць узносы, трэція проста забыліся, што яны састаялі ў партыі...

Па-другое, фальшыва гучыць тэзіс аб тым, што вось, маўляў, узнялася хваля масавых рэпрэсій, пачалося «паляванне на ведзьмаў», ушчамляюцца ў сваіх правах сумленныя радавыя камуністы. Дзе тая хваля, дзе тое паляванне, дзе тыя ганенні на простых, ні ў чым не вінаватых членаў КПБ? Няма на самай справе ні таго, ні другога, ні трэцяга. Гэта так. Ды, з другога боку, не можа не наводзіць на сумны роздум той факт, што радавыя і ні ў чым не вінаватыя камуністы не ўзняліся на абарону свайго генсека, не выйшлі згуртаванымі партыйнымі шэрагамі на вуліцы і плошчы ў знак пратэсту. Ці ўся гэта іх партыйнасць — адна фікцыя? Адна фармальная партстатыстыка? Яшчэ адзін доказ, што КПСС—КПБ ніколі не была і не з'яўляецца партыяй у сапраўдным сэнсе гэтага слова?

Існуюць дзесяткі сведчанняў у сродках масавай інфармацыі, што той ці іншы калектыў камуністаў ці іхні орган падтрымалі хунту. Тыя ж рэдкія пратэсты членаў партыі супраць перавароту, як правіла, заканчваюцца адной заявай — аб выхадзе з радоў КПСС—КПБ. І ў гэтым размежаванні саміх камуністаў глыбокі сэнс — ні адзін маральна здаровы, сумленны чалавек не хоча мець дачынення да злачыннай камуністычнай арганізацыі. Таму смехатворнымі выглядаюць патугі маладых партапаратчыкаў у іх спробе захаваць за сабой права на пасады, права на кампартыйную дзейнасць. Яны гатовы ахвяраваць малафеевымі, камаямі, ціхінямі, зеляноўскімі і іншымі, абы толькі зберагчы КПБ і заняць у ёй належныя, вядома, прэстыжныя і платныя месцы. Але тут узнікае да іх, да Чыкіна і кампаніі, пытанне: хіба не вы самі, згодна з вашым Статутам, давалі права камаям і малафеевым дзейнічаць і рабіць заявы ад вашага імя? Вы іх выбіралі, вы давалі ім паўнамоцтвы, вы і нясіце адказнасць, роўную з імі. У вас была магчымасць выйсці з КПБ, але вы прызналі Статут, а значыць і права гаварыць камаям і ціхіням ад вашага імя. Таму вінаватыя не толькі асобныя кіраўнікі — вінаваты ўсе вы, вінавата ўся КПБ. Наогул спрэчным з'яўляецца меркаванне, што суровую адказнасць за злачынствы, учыненыя партыяй, могуць несці толькі асобныя яе кіраўнікі.

На Нюрнбергскім працэсе суб'ектамі крымінальнай адказнасці былі прызнаны калектыўныя ўтварэнні: кіруючы склад Нацыянал - сацыялістскай рабочай партыі, гестапа, СД і СС. З той, аднак, агаворкай, што толькі адна прыналежнасць да гэтай партыі яшчэ не дае падстаў для прыцягнення канкрэтных асобаў да судовай адказнасці.

Адзіна правільным, на нашу думку, рашэннем можа быць толькі роспуск зняславіўшай сябе кампартыі і перадача ўсёй яе нарабаванай за гады манапольнага панавання маёмасці таму, хто гэтую маёмасць ствараў — беларускаму народу. Тым больш, што на сённяшні дзень існуе вострая, надзённая патрэба ў іншай, больш мэтазгоднай для карысці справы рэалізацыі гэтай маёмасці, — аб чым сведчыць, у прыватнасці, надрукаваны гэтымі днямі ў «Народнай газеце» трывожны ліст яе галоўнага рэдактара, народнага дэпутата Беларусі Іосіфа Сярэдзіча (прыгадаем тут жа свежы ў памяці надрукаваны ў гэтай газеце ліст выкладчыкаў філалагічнага факультэта БДУ).

Такое рашэнне было б справядлівым яшчэ і таму, што яно адкрывала б магчымасць ствараць аднолькавыя стартавыя ўмовы для палітычнай дзейнасці ўсіх партый, у тым ліку і партый з камуністычнай ідэалогіяй, як казаў паэт, «с Лениным в башке». Партый, удакладнім, а не наддзяржаўных структур з прэтэнзіяй на дыктат, на манапольнае панаванне, на права быць «кіруючай і накіроўваючай сілай».

Любое іншае рашэнне, на наш погляд, тоіць сур'ёзную небяспеку для грамадства, для далейшага палітычнага развіцця нашай дэмакратычнай незалежнай Рэспублікі Беларусь. Вярнуўшыся да ранейшай дзейнасці пад новымі шыльдамі, валодаючы адпаведнай маёмасцю, структуры КПБ будуць мець магчымасць уплываць на ход падзей, рабіць усё ад іх залежачае для дэстабілізацыі палітычнай і сацыяльна-эканамічнай абстаноўкі ў рэспубліцы. Няма сумнення (пра гэта, у прыватнасці, красамоўна гавораць баявыя выступленні таго ж Чыкіна), што яны выкарыстаюць свой апошні шанц для таго, каб зноў прыбраць да сваіх рук рэальную ўладу. Дзеля гэтай мэты яны выкарыстаюць і сумна вядомыя «метады барацьбы» кампартый прыбалтыйскіх рэспублік, лідэры якіх (кампартый), успомнім, шчодра дзяліліся сваім багатым вопытам з А. Малафеевым падчас іх сяброўскай сустрэчы ў Менску напярэдадні жнівеньскага путчу.

Выкарыстоўваючы права заканадаўчай ініцыятывы, Цэнтральная Рада Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады ўносіць праз фракцыю БСДГ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь праект адпаведнай пастановы і прапануе разгледзець яго на нечарговай шостай сесіі Вярхоўнага Савета РБ.

**Прынята па рашэнню пленума Цэнтральнай Рады БСДГ 21 верасня гг.**

# Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Аб парадку размяшчэння воінскіх фарміраванняў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь

Кіруючыся Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Законам Рэспублікі Беларусь «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Рэспубліцы Беларусь», Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць, што перадыслакацыя ў межах Рэспублікі Беларусь, увод і вывад з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь часцей і злучэнняў Узброеных Сіл Саюза ССР, пагранічных, чыгуначных і будаўнічых войск, іншых воінскіх фарміраванняў, размешчаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а таксама парадак уводу і вываду ўзбраення, ваеннай тэхнікі, вываз матэрыяльна-тэхнічных сродкаў, якія належаць ім, і іншай ваеннай маёмасці, ажыццяўляюцца ў парадку, што вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

2. Гэту пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

20 верасня 1991 г. гор. Мінск.

# Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Аб парадку праходжання ваенных збораў і абавязковай тэрміновай воінскай службы асобамі, якія прызываюцца з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь

Кіруючыся Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць, што асобы, якія прызываюцца на ваенныя зборы, а таксама для праходжання абавязковай тэрміновай воінскай службы з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, пачынаючы з асенняга прызыву 1991 года, праходзяць ваенныя зборы і воінскую службу на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Асобы, прызваныя на ваенныя зборы і абавязковую тэрміновую воінскую службу з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, маюць права на добраахвотнай аснове праходзіць ваенныя зборы і воінскую службу за межамі Рэспублікі Беларусь толькі ва Узброеных Сілах Саюза ССР.

2. Гэту пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

20 верасня 1991 г. гор. Мінск.

# Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Аб стварэнні Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь

Кіруючыся Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Лічыць неабходным распачаць стварэнне Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

2. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю сумесна з камандаваннем Чырвонасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, іншымі зацікаўленымі міністэрствамі і ведамствамі да 1 лістапада 1991 года прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы аб структуры і прынцыпах будаўніцтва Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

20 верасня 1991 г. гор. Мінск.

# Закон Рэспублікі Беларусь

## Аб унясенні змянення ў артыкул 14 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Рэспубліцы Беларусь»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Частку другую артыкула 14 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Рэспубліцы Беларусь» выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Перадыслакацыя ў межах Рэспублікі Беларусь, увод і вывад з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь часцей і злучэнняў Узброеных Сіл Саюза ССР, пагранічных, чыгуначных і будаўнічых войск, іншых воінскіх фарміраванняў, размешчаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а таксама парадак уводу і вываду ўзбраення, ваеннай тэхнікі, вываз матэрыяльна-тэхнічных сродкаў, якія належаць ім, і іншай ваеннай маёмасці, а таксама іх транзітныя перавозкі па тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, ажыццяўляюцца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

20 верасня 1991 г. гор. Мінск.

# Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Аб мытнай службе Рэспублікі Беларусь

У мэтах забеспячэння палітычнай і эканамічнай самастойнасці Рэспублікі Беларусь, удасканалення знешнеэканамічнай дзейнасці і мытнай справы ў рэспубліцы Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Пераўтварыць Беларускае ўпраўленне дзяржаўнага мытнага кантролю СССР у Дзяржаўны мытны камітэт Рэспублікі Беларусь, падпарадкаваўшы яму мытныя органы СССР, размешчаныя на тэрыторыі рэспублікі.

2. Забараніць перамяшчэнне за межы рэспублікі маёмасці мытных органаў у мэтах, не звязаных з выкананнем імі службовых абавязкаў, а таксама маёмасці, якая падлягае абарачэнню ў даход дзяржавы, да вызначэння Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь парадку яе выкарыстання.

3. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

— унесці на разгляд чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прапановы па канцэпцыі мытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь. і кандыдатуры на пасаду старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь;

— распрацаваць Часовае палажэнне аб Дзяржаўным мытным камітэце Рэспублікі Беларусь;

— да 1 снежня 1991 года падрыхтаваць і ўнесці ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь праекты закона аб мытні, іншых заканадаўчых актаў, якія рэгулююць мытную справу ў рэспубліцы. Узгадніць з адпаведнымі органамі Саюза ССР, іншых рэспублік пытанне аб пераразмеркаванні мытных паступленняў.

4. Да прыняцця закона аб мытні і іншых заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь, якія рэгулююць мытную справу, на тэрыторыі рэспублікі дзейнічаюць заканадаўчыя акты Саюза ССР, калі яны не супярэчаць заканадаўству Рэспублікі Беларусь.

5. Да ўтварэння адпаведных структур Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь прасіць прадстаўляць інтарэсы Рэспублікі Беларусь па мытных пытаннях з замежнымі краінамі і міжнароднымі арганізацыямі Мытны камітэт СССР.

6. Гэту пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

20 верасня 1991 г. гор. Мінск.

